УДК 821.161.3-1
ББК 64 (4 Беи)
П69

**Пракаповіч, І.**
П69 Парфорснае паляванне ў Паставах / Ігар Пракаповіч. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 44 с.
ISBN 978-985-6976-30-1??.

Анатацыя

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-6976-30-1**


Паставы на працягу свайго існавання былі невялічкім гарадком, мястэчкам, якое рэдка аказвалася ў гушчыні вялікіх падзей і здарэнняў. Таму жыццёвыя шляхі знакамітых асоб — людзей, што раскручвалі спіраль гісторыі, звычайна праходзілі далёка ад тутэйшых мясцін. Але былі часы, калі па пастаўскіх вуліцах шпацыравалі такія персоны, імёны якіх ведае або чуў калі-небудзь любы адукаваны чалавек. Вялікі князь, генерал, унук расійскага імператара Мікалая І Мікалай Мікалаевіч Раманаў; вядомы палкаводзец, расійскі, савецкі генерал-ад'ютант Аляксей Аляксеевіч Брусілаў; расійскі, савецкі ваенны дзеяч, дыпламат, пісьменнік генерал-лейтэнант Аляксей Аляксеевіч Ігнацьеў; белагвардзейскі казачы атаман, князь, палітычны дзеяч, пісьменнік Пётр Мікалаевіч Красноў; прэзідэнт і фельдмаршал Фінляндыі Карл Густаў Манергейм, адзін з першых расійскіх кінарэжысёраў і апаратараў Аляксандр Дранкоў. Вельмі верагодна, што тут бывалі апошні гетман Украіны Павел Скарападскі, белагвардзейскі генерал Врангель і некаторыя іншыя вядомыя гістарычныя асобы. Якім чынам гэтыя вядомыя людзі патрапілі ў Паставы і чаму ў іх біяграфіях ёсць старонкі пра наш горад? Іх аб'яднала афіцэрская кавалерыйская школа і парфорснае паляванне. Паспрабуем зазірнуць у мінулае, каб разабрацца з тым, што ж адбывалася ў невялікім мястэчку Паставы ў пачатку ХХ стагоддзя. Але пачнём здалёк, з афіцэрскай кавалерыйскай школы.

# Імператарская афіцэрская кавалерыйская школа

Афіцэрская кавалерыйская школа — ваенна-навучальная ўстанова расійскага імператарскага войска, якая ў пачатку XX стагоддзя размяшчалася ў горадзе Санкт-Пецярбург па вуліцы Шпалернай у Аракчэеўскіх казармах. Датай заснавання школы лічыцца 22 красавіка 1809 года. Менавіта тады з мэтай аб'яднання розных аддзелаў кавалерыі быў сфарміраваны Вучэбны кавалерыйскі эскадрон. У жніўні 1875-га яго перавялі з Паўлаўску ў Санкт-Пецярбург, а з сакавіка 1882 года ён атрымаў назву Афіцэрская кавалерыйская школа.

На той час конніца складала асноўную баявую частку войска і таму перад школай ставіўся шэраг важных задач. Яна павінна была весці падрыхтоўку афіцэраў кавалерыі і казацкіх войск для камандавання эскадронам або сотняй, даючы ім адмысловую адукацыю, якая б спрыяла падтрыманню ва ўсіх вайсковых частках адзіных правіл службы. Разам з гэтым вялося навучанне дасведчаных наезнікаў унтэр-афіцэрскага звання для выездкі коней у кавалерыі і коннай артылерыі, а таксама падрыхтоўка спецыялістаў у кавальскай справе.

Школа складалася з шасці аддзелаў: драгунскага, казацкага, эскадрона школы, інструктарскага, аддзела наезнікаў для ніжніх чыноў і вучэбнай кузні. У 1891 годзе інструктарскі аддзел быў скасаваны, а курс выездкі дадалі ў праграму аддзела эскадронных і соценных камандзіраў.

Прыём у школу праходзіў да 1 кастрычніка без экзаменаў. У драгунскі аддзел штогод прымалі 38 афіцэраў (6 гвардзейскіх), у казачы — 24 (1 гвардзейскі). Навучальны курс для іх працягваўся амаль два гады (з 1 кастрычніка



аднаго года па 15 жніўня другога). На старэйшы курс навучэнцаў пераводзілі па атрыманых гадавых адзнаках.

За час вучобы ў школе афіцэрам трэба было засвоіць шэраг тэарэтычных прадметаў і прайсці пэўныя практычныя выпрабаванні. Тэорыя была прадстаўлена такімі курсамі, як правілы верхавой язды, выхаванне і выездка коней; тактыка; гісторыя конніцы; звесткі пра ручную зброю; звесткі па тэлеграфнай справе; іпалогія; правілы кавальскай справы. У практычныя заняткі ўключалася верхавая язда, у тым ліку парфорснае паляванне; далёкія марш-кідкі; рашэнне тактычных задач на планах, вокамерная і маршрутная здымкі мясцовасці; рашэнне тактычных задач на мясцовасці і іншыя.

Пасля заканчэння курсу афіцэры вярталіся ў свае часткі і прымалі першы вольны эскадрон або сотню, нават калі ў ёй былі іншыя афіцэры, старэйшыя па чыне, але не прайшоўшыя навучання ў школе.

Ніжнія чыны штогод паступалі ў драгунскі аддзел і вучэбную кузню. Туды камандзіраваліся ўнтэр-афіцэры і радавыя 2–3 года службы (па адным ад кожных двух кавалерыйскіх палкоў), якія добра ездзілі на конях, пісьменныя і, пераважна тыя, што паспяхова закончылі палкавую вучэбную каманду.

Курс навучання займаў два гады і ўключаў у сябе наступныя тэарэтычныя заняткі: іпалогія; правілы верхавой язды; выхаванне і выездка коней; правілы кавальскай справы. Практычныя заняткі ўключалі ў сябе язду на аб'езджаных і маладых конях, вальтыжыроўку і гімнастыку.

Па заканчэнні курсу ніжнія чыны вярталіся ў свае часткі для прызначэння на пасады наезнікаў. Радавыя, якія здавалі адмысловы экзамен, атрымлівалі ўнтэр-афіцэрскае званне. У кузню для навучання кавальскай справе штогод прымалі навабранцаў з кавалерыйскіх палкоў і казакоў.

З 1867 па 1909 год школа падрыхтавала 1068 афіцэраў у рэгулярную кавалерыю, 106 — у казацкія войскі, а таксама 138 інструктараў і 2187 ніжніх чыноў.

Пры школе дзейнічалі два музеі: конскага рыштунку і ручной зброі, а таксама выдаваўся спецыялізаваны часопіс «Веснік рускай конніцы».

З афіцэрскай кавалерыйскай школай звязаны лёсы вядомых гістарычных асоб: А. А. Брусілаў, С. М. Будзёны, П. М. Врангель, П. У. Глазенап, А. А. Ігнацьеў, П. М. Красноў, К. Г. Манергейм, А. П. Радзянка, Д. Філіс, П. П. Скарападскі.

Вялікую ролю ў рэарганізацыі школы і пераўтварэнні яе ў сапраўдную кузню падрыхтаваных кавалерыйскіх кадраў адыграў вялікі князь Мікалай Мікалаевіч Раманаў. Менавіта ён, заняўшы пасаду генерал-інспектара кавалерыі, увёў больш жорсткія патрабаванні для афіцэраў, якія прэтэндавалі на камандаванне эскадронамі, абавязаўшы іх прайсці курс навучання ў афіцэрскай кавалерыйскай школе. Ім жа былі арганізаваны парфорсныя паляванні ў Паставах, як неад'емная частка развіцця практычных навыкаў верхавой язды.

Адноўленая і карэнным чынам ператорвараная школа ў Санк-Пецярбурзе ў хуткім часе паспела заслужыць рэпутацыю мала прыемнай установы. У ёй упершыню ў Расіі былі ўжыты мёртвыя бар'еры, укапаныя ў зямлю, і асабліва палохалі афіцэраў парфорсныя паляванні. Стагналі бедныя кавалерыйскія палкоўнікі, змушаныя скакаць на гэтых паляваннях вёрст дзесяць — дванаццаць па перасечанай мясцовасці. Многія сыходзілі ў адстаўку, не здолеўшы перанесці гэтага выпрабавання.



## Практычная афіцэрская кавалерыйская школа ў Паставах

У канцы лета — пачатку восені з 1 жніўня па 1 кастрычніка Паставы для трэніровак і правядзення парфорснага палявання прыязджалі з Санкт-Пецярбурга кавалерысты. У мястэчку з 1900 па 1913 год дзейнічала практычная афіцэрская кавалерыйская школа.

Пачынаўся новы перыяд навучання, да якога ўсе курсанты рыхтаваліся з вялікай цікавасцю і адказнасцю, бо ні адна еўрапейская школа не размяшчалася з такімі выгодамі, якія меліся ў Паставах. Амаль у цэнтры Віленскай губерні Афіцэрская Школа арандавала ў графа Пшаздецкага яго вялізарныя ўгоддзі, уся прастора якіх здзіўляла разнастайнасцю сваёй прыроды. Узвышшы чаргаваліся з ярамі, лугі і даліны перасякаліся шматлікімі ручаямі і балотамі, а мноства пералескаў пераходзіла часта ў густое кустоўе, а то і ў цяжкапраходныя лясы.

Да Пастаў афіцэры з конямі дабіраліся на цягніках. Спачатку даязджалі да Свянцян, а потым па вузкакалейцы, якая была пракладзена тут у канцы XIX стагоддзя, накіроўваліся да мястэчка. Вось як пра гэта пісаў былы ўдзельнік парфорсных паляванняў палкоўнік М. Мураховскі: «Да Пастаў вяла вузкакалейка ад ст. Свянцяны, па якой хадзілі вагоны настолькі маленькія, што ў іх месціліся толькі чатыры кані, ды і тых даводзілася прыгінаць за вушы, каб увесці ў вагон.

Гэты цягнік-цацка весела пасвістваў, прабягаючы свой шлях даволі хутка, і спыняўся на беразе даволі вялікага возера, дзе і выгружаў сваіх двухногіх і чатырохногіх пасажыраў.» Паколькі каля сучаснай чыгуначнай станцыі ў Паставах няма возера, то можна меркаваць, што цягнічок

спыняўся на прыпынку паміж азёрамі Задзеўскае і Кавалькі, а адтуль курсанты рухаліся ў маёнтак Пшаздзецкага, дзе знаходзіўся спецыяльна пабудаваны для парфорсных паляванняў комплекс.

Пасля пецярбургскіх дажджоў і туманаў афіцэры траплялі на Пастаўшчыне ў пачатак залатой восені. Вось як апісвае ўражанні ад тутэйшых мясцін былы кіраўнік казацкага аддзелу пісьменнік П. Красноў: «Тут, у Паставах, сапраўды яшчэ працягвалася чырвонае лета. Бясхмарнае неба падавалася высокім. Сонца грэла. У садах залатыя віселі яблыкі і сінія слівы. У кветніку перад школьным палацам бурна квітнелі высокія далікатныя флоксы, пярэстыя вярбены і цёмныя, касматыя астры і даліі. “Кручаны паныч” віўся па балконах і пераплятаўся з барвенкам. На шырокіх, лясных, пясчаных дарогах дух захоплівала ад моцнага смалістага паху…»

Афіцэры размяшчаліся ў паляўнічым палацы, які стаяў на высокім узгорыстым беразе Мядзелкі, коні ж і салдаты, што наглядалі за імі, — у канюшнях і маленькай казарме на супрацьлеглым баку ракі.

Паляўнічы палац уяўляў сабой вялікі трохпавярховы будынак адметных архітэктурных форм, акружаны цяністым гаем з алеямі і прыгожымі ўтульнымі куткамі. На ніжнім, каменным, паверсе знаходзілася вялікая сталовая на паўтары сотні чалавек, бібліятэка, більярдная, кватэры начальніка школы і яго памочніка і некалькі пакояў для гульні ў карты, а таксама вялікая, пакрытая шклом веранда, якая была абстаўлена нізкімі шэзлонгамі і маленькімі столікамі. На другім, драўляным, паверсе размяшчаліся спальні для афіцэраў і «умывальныя» пакоі. На трэцім жылі дзеншчыкі. Усяго ў палацы налічвалася больш за 100 пакояў для афіцэраў і гасцей.



У паляўнічы комплекс уваходзілі таксама стайні на дзвесце коней, звярынец для аленяў і псярня. Акрамя гэтага, былі абсталяваныя траса для скачак і поле для выездкі. Для адпачынку гасцей меліся тэнісныя корты.

Агульнае жыццё, пад’ём па сігналу, агульная гарбата, сняданак і абед, гульні ў тэніс і футбол нагадвалі афіцэрам кадэцкія і юнкерскія гады. У вольныя гадзіны, калі на двары быў дождж, з пакояў і па калідору чуліся вясёлыя галасы. Тут звінела гітара, там бадзёра спявалі хорам старую школьную песню «Зверыяда», успаміналі юнкерскія жарты, важдаліся і дужаліся… За сняданкам ігралі балалаечнікі, за абедам — школьныя трубачы… Калі яны сыходзілі, то хто-небудзь садзіўся за піяніна ды іграў і спяваў…

Увогуле, графам Пшаздзецкім былі створаны ўсе ўмовы для камфортнага побыту ўдзельнікаў парфорснага палявання. Як пісаў той жа М. Мурахоўскі, «кармілі нас цудоўна, а пра буфет і гаварыць не прыходзілася — да таго ён быў бездакорны і ў якасных і ў колькасных адносінах.»

У 1901 году вялікі князь Мікалай Мікалаевіч наведаў Паставы і ўдзельнічаў у паляванні. У яго гонар паляўнічы замак атрымаў назву «Мікалаеўскага». Цікавая дэталь — грошай, якія выдаткоўваліся казной на паляванне не хапала, і недахоп у іх пакрываўся з сум, якія ахвяравалі імператар і асобы імператарскай фаміліі.

Паляванне ў Паставах карысталіся цалкам заслужанай славай. Быў нават напісаны калісьці папулярны марш «Пастаўскія фанфары».

— Как наша школа основалась,
Тогда разверзлись небеса,
Завеса на небе порвалась
И слышны были голоса…

— И наливай, брат, наливай,
Все до капли выпивай!..

— Вот мы приехали в Поставы
Штаб-офицеров тут нашли
С Кавказа, с Конина и Млавы
Со всей Руси они пришли.

— И наливай, брат, наливай,
Все до капли выпивай!..

— Прошли охоты мы по следу
Потом на зверя перешли.
Теперь уж барином я еду
Лишь бы поспеть на «ала-ли»…

— И наливай, брат, наливай,
Все до капли выпивай!..

— И эта первая охота
Всех предыдущих веселей…
Наутро — новая забота: —
Набито тридцать лошадей!..

— И наливай, брат, наливай,
Все до капли выпивай!..



## Гісторыя парфорснага палявання

Парфорсная паляванне (ад французскага «par force» — браць сілай) — гэта такі від палявання, калі звер бярэцца ганчакамі, без дапамогі чалавека або агнястрэльнай зброі. У ім удзельнічаюць, як правіла, адна або некалькі зграй ганчакоў па 30–40 сабак у кожнай. Сабак суправаджаюць конныя паляўнічыя, а запрошаныя госці могуць браць удзел як конна, так і ў лёгкіх экіпажах. Правілы палявання, якія складаліся стагоддзямі, рэгламентуюць усе дробязі, аж да гарнітураў. Кавалерам загадваецца насіць чырвоныя рэдынготы, белыя ласіны і белыя пальчаткі, боты і чорныя кепкі, а дамам — элегантныя амазонкі цёмных адценняў і цыліндры з вэлюмам.

У Англіі парфорсная паляванне трывала заняла першае месца сярод арыстакратычных забаў з XIV стагоддзі. За шэсцьсот гадоў папуляцыі аленяў, кабаноў, казуль і норак былі практычна знішчаны, асноўным аб’ектам палявання ў Брытаніі стала чырвоная ліса. Таму сёння парфорснае паляванне часцей называюць паляваннем на ліс. А калі паменела і іх, то перайшлі на падсаднога звера, якога выпускалі з бочкі. Пазней паляванне пачалі арганізоўваць па штучнаму следу.

У XV стагоддзі з Брытаніі мода на парфорснае паляванне прыйшла ў Францыю, дзе дасягнула найвышэйшага росквіту. Французскія каралі надавалі ёй больш часу, чым дзяржаўным справам, і абстаўлялі паляўнічыя выезды з нязменнай пышнасцю і бляскам: Шамбор і Шанцільі, Версаль і Фантэнбло — не што іншае, як паляўнічыя рэзідэнцыі.

Дваране там трымалі вялікія псярні, а праслед ваўкоў і аленяў працягваўся часам па некалькі сутак. Аднак памяншэнне колькасці звяроў паступова звужала кола

аматараў парфорснага палявання, і гэты занятак з цягам часу прыйшоў у заняпад.

На гэты від палявання звярнулі ўвагу вайскоўцы-кавалерысты. Яны заўважылі, што парфорс дае выдатныя магчымасці для практычнай падрыхтоўкі наезнікаў. І таму такія практыкаванні былі ўключаны ў праграмы кавалерыйскіх школ. У Еўропе ў канцы XIX стагоддзя найлепшымі лічыліся Самюрская ў Францыі і Гановерская ў Германіі.

Французская кавалерыйская школа ў горадзе Самюры сваёй базы для парфорснага палявання не мела. Тлумачылася гэта тым, што мясцовасць вакол горада належала дробным землеўласнікам, якія выступалі супраць непазбежных наездаў на іх уладанні. Буйныя ж землеўласнікі, амаль усе, мелі свае ўласныя паляванні. Начальства школы адпускала афіцэраў па запрашэннях, якія дасылалі на кавалерыйскую школу гаспадары. Кожны афіцэр меў права раз у месяц прыняць удзел у парфорсной паляванні. Звычайна са школы адпускалася 15–20 афіцэраў. Паляванні адбываліся з восені да вясны, пераважна па аленях, але часам і па кабанах.

Германская кавалерыйская школа ў Гановеры мела сваё парфорснае паляванне, працоўных сабак і адмысловых паляўнічых коней. Выезды па зверу або па штучнаму следу пачыналіся з пачатку кастрычніка і працягваліся да канца снежня і адбываліся па тры разы на тыдзень. Улетку паляванне праводзіліся толькі па штучным следзе на працягу чатырох тыдняў па тры разы на тыдзень.

З 1897 года парфорснае паляванне пачало праводзіцца ў Расіі для афіцэраў Кавалерыйскай Школы. Імклівае развіццё хуткастрэльнасці і дальнабойнасці стралковай зброі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў, паставіла перад кавалерыяй задачы не толькі максімальнага развіцця манеўранасці, але



і здольнасці дзеянняў конна ў самых разнастайных умовах мясцовасці.

Руская кавалерыя рыхтавала конніцу да вялікіх і працяглых нагрузак у палявой яздзе. Аднак навучыць усю вялізную рускую кавалерыю, а гэта 1500 эскадронаў і сотняў, магчыма было толькі пры ўмове, што ўвесь корпус кавалерыйскіх афіцэраў будзе мець такія навыкі, як веды па правільнай палявой падрыхтоўцы каня (вытрымка), здольнасці ў пераадольванні мясцовасці і перашкод, хуткае прыняцце рашэнняў.

Падобныя якасці ў палявой яздзе можна было атрымаць толькі шляхам адпаведнай практыкі, для чаго ідэальна падыходзілі парфорсныя паляванні. Генерал-інспектар рускай кавалерыі вялікі князь Мікалай Мікалаевіч Раманаў, вялікі знаўца коннага спорту, у 1897 году заснаваў пры афіцэрскай кавалерыйскай школе парфорснае паляванне. Іх арганізацыяй займаўся генерал А.А. Брусілаў, намеснік начальніка, а з 1902 года — начальнік афіцэрскай кавалерыйскай школы. Неўзабаве парфорсныя паляванні сталі адным з найважнейшых раздзелаў курсу падрыхтоўкі афіцэраў і наезнікаў.

У палявой практыцы ўдзельнічалі афіцэры пастаяннага і пераменнага складу, унтэр-афіцэры — наезнікі і кандыдаты на пасаду камандзіраў палкоў. З 15-га чэрвеня пачыналася падрыхтоўка коней для парфорснага палявання. Трэніроўкі былі даволі насычаныя. Кожны будучы ўдзельнік меў па два кані, з якімі ён працаваў праз дзень. Падрыхтоўка складалася з язды па мясцовасці і пераадольванні перашкод.

Пры арганізацыі такога роду трэніровак быў вывучаны вопыт лепшых еўрапейскіх школ. У выніку кіраўніцтва школы выбрала два месцы для правядзення палявой практыкі: Краснае Сяло недалёка ад Санкт-Пецярбурга і

станцыю «Валдайка» Наўгародскай губерні. Каля сталіцы вершнікі ў асноўным займаліся трэніроўкамі, а парфорсныя паляванні першыя тры гады ладзіліся на Валдайшчыне. Але навакольная багністая мясцовасць і раннія замаразкі моцна ўскладнялі выкананне праграмы, і таму з 1899 года афіцэрская кавалерыйская школа арандавала месца ў маёнтку графа Пшаздецкага ў мястэчку Паставы Дзісненскага павета Віленскай губерні. Калі ў ваколіцах «паўночнай сталіцы» парфорснае паляванне было спрошчаным, без сур'ёзных перашкод і ладзілася па штучнаму следу, то ў Паставах праграма была нашмат больш складаная, і многія афіцэры, асабліва тыя, хто не вельмі ўпэўнена адчуваў сябе на кані, баяліся пастаўскіх перашкод. Барон Манергейм гаварыў: «Паляванне з «вывалачкай»(штучнай лісой) — гэта не парфорс! Сапраўднае паляванне можна зведаць толькі ў Паставах графа Пшаздзецкага, у якога васемнаццаць фокс-гундаў, і кожны сабачы «смычок» не збіць са слядоў сапраўднага звера».

У 1904 годзе для ўскладнення трэніроўкі ў ваколіцах Краснага Сяла быў пабудаваны адмысловае іпадромнае кола са знакамітымі «трунамі» у сярэдзіне — «мёртвымі» перашкодамі палявога тыпу. На іх многія вершнікі падалі, і, бывала, ламалі сабе рукі, ногі. Але ўсё адно, трэніроўкі каля Санкт-Пецярбурга мелі больш бутафорскі характар. А вось у Паставах…



## Коні і сабакі на парфорсе

Поспех парфорснага палявання залежаў не толькі ад ступені кавалерыйскай падрыхтоўкі саміх афіцэраў, але і ад вывучкі коней і сабак. І гэтаму надавалася вялікае значэнне.

Зграя ганчакоў, якая змяшчалася ў Паставах, даходзіла да 60 сабак (па іншых звестках — да 150) і складалася з англійскіх лісагонных ганчакоў (ароксгаўндаў), якія спецыяльна трэніраваліся для парфорсных паляванняў. З вясны сабакі браліся штодня ў праводку. Яна пачыналася з 1 гадзіны і даводзілася затым да 3 гадзін бесперапыннага руху. Сабак праводзілі па розных мясцовасцях і рознымі алюрамі.

Добра трэніраваныя парфорсныя сабакі маглі без цяжкасці праходзіць каля 20–25 км з высокай паратасцю (жвавасцю). Акрамя ароксгаўндаў у Паставах разводзілі хартоў (барзых сабак), падружэйных гончых і таксаў. У 1911 годзе на псярні знаходзілася 43 дарослых і 17 шчанюкоў працоўных сабак, і 7 дарослых і 5 шчанюкоў хартоў.

Да коней у афіцэраў-кавалерыстаў было асобае стаўленне, бо ад характару і якасці каня залежала далейшая кар'ера, а, бывала, і жыццё. Таму курсанты, асабліва тыя, хто бываў на парфорсных паляваннях раней, ведалі амаль усіх школьных коней.

Падрыхтоўка коней ў афіцэрскай кавалерыйскай школе вялася па сістэме Дж. Філіса. Яе выкарыстоўвалі і ў замежных школах. Сам Дж. Філіс неаднаразова бываў у Паставах, дзе праводзіў практычная занятківз афіцэрамі. Сістэма падрыхтоўкі была настолькі добрая і ўніверсальная, што коні аднолькава паспяхова выступалі, як на парфорсных паляваннях, так і ў практыкаваннях вышэйшай школы язды. Прыкладам таму можа служыць кабыла «Прымадона», аб'езджаная для вышэйшай школы і якая восем гадоў

удзельнічала ў паляваннях пад сядлом генерала У.А. Хімца, лепшага вершніка ў Расіі пачатку XX стагоддзі, начальніка школы. Вядомымі былі і коні Катон і Абат, прычым першы хадзіў пад сядлом «мастэра» палявання штаб-ротмістра П.І. Руднева шэсць гадоў.

А вось як апісваў у сваім рамане «Largo» школьных коней былы кіраўнік казацкага аддзела пісьменнік П. Красноў: «Хтосьці сказаў, што, для ўзмацнення сур'ёзнасці палявання, начальнік аддзела, палкоўнік Драгаманаў загадаў даць не тых коней, на якіх афіцэры заўсёды ездзілі, а чужых. Кожны будзе сядзець на кані, якога ён не ведае. І хоць усе коні былі добра навучаны і выдатна ўмелі хадзіць па мясцовасці, былі між імі і вельмі непрыемныя. Так, уся школа ведала каня Каперніка, які быў знакамітым «звездочётом», і, маючы кароткую патыліцу, не прызнаваў ні трэнзеля, ні муштука, але, задраўшы дагары галаву, нёс, куды жадаў. Два гады таму на ім, вясной, у манежы, насмерць разбіўся на драўляным плоце штабс-ротмістр Балдзін. На паляваннях Капернік заўсёды падаў, і яго адставілі ад іх. Была кабыла Змейка, якая не прызнавала канаў… былі і іншыя, на якіх не ездзілі, але пра якіх чулі самыя кепскія апавяданні.

… Петрык ведаў усіх каней Школы. Для яго яны былі як добрыя знаёмыя, нібы людзі, і кожнага ён ведаў «у твар». Ён іх адушаўляў, надаваў ім падабенства з людзьмі і, сапраўды, размаўляў з імі. Ён убачыў, што ягонага Аметыста даюць штаб-афіцэру, кандыдату на полк, і ганарыўся гэтым. Значыць — у Аметыста вераць, значыць — ён добра навучыў яго хадзіць па полі. Бражнікоўскі вёў вядомага Жэрміналя… Усмешлівы Лісоўскі вёў Салаўя. Гэта быў стары шэры конь, які ведаў Паставы напамяць. Яго давалі самым кепскім ездакам, самым старым штаб-афіцэрам. На ім ездзілі «пасажырам», — толькі сядзі і не перашкаджай, а



і перашкодзіш, дык Салавей выправіць. Пра яго распавядалі, што ён, падыходзячы да перашкоды, паварочваў да седака сваю разумную, лабатую галаву і гаварыў чалавечай мовай: «сядзі!… не бойся!»… На ім «перасяляліся» праз канавы і платы так мякка і прыемна, што нават не заўважалі штуршкоў. Ён скакаў, як котка і ніколі не закідваўся, не заносіў, не «пёр», не ламаў перашкод і не падаў. І з яго ніколі ніхто не падаў. Ён сапраўды падтрымліваў няўмелага ездака. Яго давалі за выдатныя поспехі, давалі начальству, скакаць на ім была асалода. Петрык зразумеў, што Драгаманаў даў яму Салаўя як узнагароду.

Петрык глядзеў далей. Ён убачыў коннаартылерыста Лявыкіна… Той вёў худога, даўгашыяга, пачварнага Каперніка…»

Паляўнічых коней у Паставах было дванаццаць. З адкрыццём сезону палявання іх колькасць узрастала да двухсот. Малодшых даездчыкаў з салдат мелася пяць чалавек. Доўгія гады старэйшым даездчыкам быў англічанін Футтэр. З «мастэраў» парфорснага палявання выдзяляліся сваімі ўменнямі П. Руднеў і штаб-ротмістр Д. Валікоўскі.

Для парфорснага палявання ў Паставах меліся таксама вальеры, у якіх трымалі дзікіх жывёл. Так на 1911 год у звярынцы ўтрымлівалася 70 аленяў пароды «даніэль», якія вызначаліся сваёй рэзвасцю, і 5 высакародных.

## На парфорсных паляваннях у Паставах

Парфорсныя паляванні падзяляліся на два віды: паляванне па штучным следзе і па жывым зверу.

Паляванне па штучным следзе з'яўляліся падрыхтоўчым практыкаваннем. Начальнікам палявання («мастэрам») вызначаўся маршрут зададзенай працягласці, з вызначанымі характарам грунта і мясцовасці, колькасцю і відам перашкод. Некаторыя натуральныя перашкоды адмыслова ўскладняліся.

Па маршруце пракладаўся след: па зямлі працягвалася губка, якая была змочана спецыфічным пахам якога-небудзь звера, найчасцей — лісы. Сабакі, наведзеныя на след, ішлі вельмі хутка, а ўдзельнікі былі абавязаныя ехаць у пэўным парадку за начальнікам палявання, не адстаючы і не адхіляючыся ў бакі. Такім чынам, начальнік палявання, павялічваючы дыстанцыю, колькасць і памеры перашкод, рыхтаваў удзельнікаў да самастойнай язды па мясцовасці.

На практыцы рабілася гэта так. За паўгадзіны да пачатку палявання вершнік выязджае да вызначанага месца і кладзе губку на зямлю, а затым едзе наперад любым алюрам, выбіраючы па магчымасці больш разнастайную перасечаную мясцовасць. Губка цягнецца за ім, пакідаючы на зямлі пах звера. Праехаўшы свой маршрут даўжынёй 10–12 кіламетраў, вершнік спыняецца і падцягваючы губку на сядло, чакае прыбыцця палявання. Пры такім спосабе пракладкі следу зразумела, што чым цішэй ідзе вершнік, тым больш стойкі пах пакідае губка і тым хутчэй ідуць сабакі. Калі ж яздок едзе хутка, то губка, скачучы за ім, толькі зрэдку дакранаецца да зямлі і робіць след перарывістым, што прымушае сабак ісці цішэй.



Да восені пачыналіся палявання па штучным следзе, прычым першае паляванне прыкладна праходзіла 3 км з 6 перашкодамі, а апошняе — 9 км з 14 перашкодамі.

На паляванні па жывым зверу ўдзельнікі атрымлівалі амаль поўную самастойнасць, забаранялася толькі абганяць сабак і даездчыкаў, выскокваючы наперад або ў бок. Ні хуткасць руху, ні кірунак, ні колькасць перашкод загадзя не былі вядомыя. Паляўнічыя самі выбіралі дзе ехаць і як пераадольваць перашкоды, але павінны былі паспець да часу, калі сабакі возьмуць звера. Вокрыкі «Ала — лі» былі сімвалам заканчэння палявання. Тым з афіцэраў, хто не паспеў да гэтага моманту пад'ехаць да звера, парфорс не залічваўся.

Паляванні праводзіліся выключна па адмыслова трэніраваных аленях пароды даніэль, радзей — па высакародных. Да месца пачатку гону прыблізна за 15–20 хвілін да падыходу сабак вывозіўся ў клетцы на двух колах даніэль. Конь адпрагаўся і адводзіўся; дзверцы клеткі адчыняліся. Калі шум крокаў чалавека і каня заціхаў, супакоены алень пакідаў свой схоў і імкнуўся на свабоду. Вось як апісвае гэты момант М. Мурахоўскі: «Калі шум крокаў, які сыходзіць ад каня замрэ, можна назіраць, як з клеткі высунецца маленькая галоўка з востра пастаўленымі вушамі, а затым і вялікая частка тулава, супакоенага цішынёй жывёлы. Адным лёгкім скачком пакідае яна клетку і, азірнуўшыся, знікае ў глыбіні лесу. Прыведзеная на гэта месца зграя пачынае «вар», гэта значыць, то разбягаючыся, то зноў збіваючыся ў зграю знаёміцца са следам і шукае яго працяг пакуль гаўканне адной з сабак не дасць знак, што след знойдзены і ўся зграя, а за імі і паляванне кідаецца наперад, пакуль або не дагоніць і «возьме» звера, г. з. пакуль футэр (даязджачы) не

заколіць яго, або пакуль зграя канчаткова не згубіць след і не ўпусціць звера.

У час палявання ўдзельнікі павінны былі вытрымліваць строгі парадак. За зверам і сабакамі мусіў ехаць даязджачы, за ім — начальнік палявання, за каторым трымаліся штаб-афіцэры — кандыдаты на кавалерыйскія палкі, а за імі — астатнія афіцэры. Прычым, такі парадак павінен быў захоўвацца да канца палявання, абганяць старэйшых па рангу забаранялася.

Вось як апісвае паляванне адзін з яе ўдзельнікаў, былы драгунскі афіцэр А. Далматаў, аўтар альбому «Парфорсные охоты в Поставах»: «Восень, кастрычнік. Вялікая зграя «пярэстых сабак». Вершнікі ў чырвоных шапках і армяках, з перакінутымі праз плячо блiскучымі трубамі. Яны ўзброены кінжаламі і доўгімі арапнікамі, якія пстрыкаюць па паветры, уздзейнічаючы на сабак. Гэта даездчыкі, кіраўнікі зграі да месца пачатку палявання, адкуль ужо выпушчаны алень.

У паўвярсце ззаду — глухі шум коней іншай групы вершнікаў, куды больш вялікі. Гэтыя едуць буйнай рыссю. Яны апрануты ў мундзіры і нават кіцелі; ажыўленыя і вясёлыя. Коні гучна пырхаюць, часам пастукваюць падкова аб падкову… Прыбыўшы ў поле, вершнікі спыніліся: хтосьці злез і пачаў папраўляць сядло, а хтосьці закурыў… Між тым, алень імчаўся ў накірунку бачнага на гарызонце лесу. Зрэдку ён спыняўся і аглядаўся вакол…

Сабакі ўжо ўчулі след аленя: яны віскочуць, выказваючы страшнае нецярпенне кінуцца наперад. Коні топчуцца на месцы, нервова капаюць нагамі зямлю.

Па гуку ражка зграя нарэшце рынулася наперад, залілася тым уласцівым толькі гэтай пародзе голасам, які неяк асабліва ўздзейнічае на паляўнічых.



Алень ужо наблізіўся да лесу, калі, учуўшы непрыемнасць, змушаны быў зноў апынуцца ў полі. На шляху яго патрапілася вёска. Робячы жахлівай вышыні скачкі, ён стаў пераадольваць адзін плот за другім.

Аднак зграя ўсё набліжалася да яго. Сабакі лёгка пераскоквалі платы, а часам, знайшоўшы шырэйшы прасвет паміж жэрдкамі, праслізгвалі ў яго.

За сабакамі ва ўвесь апор несліся паляўнічыя. Платы трашчалі пад ударамі капытоў і парой валіліся… Але бывала, што валіўся не плот, а вершнік з канём. Тады здавалася, што ўпаўшыя не збяруць касцей. Аднак ужо праз хвіліну вершнік, гучна клянучы чорта за непрадбачаную затрымку, аказваўся зноў у сядле. Бабы і дзеці раўлі ўзахлёб ад страху.

Але вось вёска ззаду, а да аленя яшчэ не блізка…

Спусціўшыся ў яр, коні, як коткі, сталі караскацца на строму. Пасля восеньскага дажджу яны спатыкаліся і скатваліся ўніз…

25 вёрст ззаду. Алень працягваў несціся як страла. Але адлегласць паміж ім і пагоняй скарацілася. Сабакі, пачуўшы блізка здабычу, дадалі… «Чу яго, чу яго!» — падбадзёрвалі сабак паляўнічыя.

Не бачачы выратаванні, алень нарэшце спыніўся і, павярнуўшыся да ворагаў сваіх, з сілай стукнуў рагамі першую сабаку, якая напала на яго, за ёй — другую. Аднак сабакі ўжо ўпіліся яму ў горла і грудзі, і пачалі валіць яго.. «Аллалі, аллалі!» — крычалі паляўнічыя, якія падаспелі. А даязджачыя трубілі фанфары — гімн заканчэння палявання!»

## Праграмы парфорсных паляванняў 1900–1913 гадоў у мястэчку Паставы

| | |
|---|---|
| Афіцэры малодшага курсу і афіцэры Генштаба | Паляванне па штучным следзе з 01.08. па 25.08. — 12 практыкаванняў. Дыстанцыя пачынаецца з 4,5 км, з павелічэннем да 10,5 км. Перашкоды: пачынаючы з 90 см вышыні і 2 м шырыні, з павелічэннем да 110 см вышыні і 3,5 м шырыні. |
| Афіцэры старэйшага курсу і кандыдаты на камандаванне палком | А) Паляванне па штучным следзе з 25.08. па 10.09. — 7 практыкаванняў. Дыстанцыя: пачынаецца з 8,5 км, з павелічэннем да 21,5 км. Перашкоды: пачынаючы з 100 см вышыні і 3 м шырыні, з павелічэннем да 130 см вышыні і 4,5 м шырыні. Б.) Паляванне па жывым зверу з 10.09. па 01.10. — 10 практыкаванняў |
| Лепшыя наезнікі старэйшага курсу | Удзельнічаюць у паляваннях разам з афіцэрамі з 01.08. па 01.10. |



## Паляванне графа Пшаздзецкага

*Успаміны Валерыі Лазікевіч-Лубнеўскай,*
*якая нарадзілася ў 1903 годзе ў вёсцы Дукі*

«Памятаю, у 1908 годзе жыў у Паставах граф Пшаздзецкі (называлі яго граф Бараздзецкі), вельмі багаты, меў вялікі палац, прыязджалі да яго на лета розныя багачы і былі там аж да восені. Не ведаю, ці былі гэта заўсёды тыя самыя ж госці, ці змяняліся, але штодзень увечары іграў аркестр, спявалі і танцавалі. Было гэта ад нашых Дукоў ня цэлы кіламетр, а напрасткі і яшчэ бліжэй. А ўся вясковая моладзь збіралася на нашай вуліцы і танцавала пад іхнюю музыку.

Той граф меў многа сабак і коней і ладзіў такія аблавы. Найперш вучылі сабак як гнаць аленя. Кожны дзень слуга ехаў на кані і цягнуў нешта такое як малы драцяны кошык, не ведаю, што ў ім было, — сыходзіў нейкі пах. А потым, праз гадзіну, пускалі зграю сабак, якія гналіся па тым следзе. І так мо з год. Той, хто іх дрэсіраваў, пускаў пазней аленя і сабакі гналіся за ім, а госці імчаліся на конях і лавілі яго.

Раз загналі таго аленя да стадолы аднаго гаспадара, а другі раз бачыла, як загналі яго да возера: алень паплыў, а сабакі за ім. І злавілі. Той, хто дрэсіраваў сабак, крыкнуў на іх, ледзь выцягнулі таго аленя ўжо пагрызенага. Тады нехта з гасцей стрэліў яму ў лоб. Здзёр з яго скуру і забраў сабе, а мяса раздалі па кавалках сабакам.

Людзі з вёскі, ад старых да малых, беглі глядзець. Мужчыны і хлопцы бралі коней ад паляўнічых і праводзілі іх туды сюды, бо яны былі моцна ўзмакрэлыя, за што добра плацілі. А дзеці атрымлівалі цукеркі. Сыпалі прыгаршчамі на грамаду і казалі:»Хто болей зловіць!» А дзеці штурхаліся і валяліся адзін на другога, з чаго паляўнічыя смяяліся.

Пазней праз пару дзён, прыязджала камісія і вызначала, дзе каму якая шкода ўчынена. За яе потым добра плацілі. У некаторых гаспадароў знаходзіліся авечкі ў полі, стаялі снапы, расла бульба і буракі, а для паляўнічых не існавалі перашкоды — дзе вочы наставілі, там і ляцелі, не зважаючы на шкоду. А граф ганарова ўзнагароджваў іх».



## Пастаўскае парфорснае паляванне ў кінадакументах і літаратурных творах

Паколькі на парфорсныя паляванні ў Паставы прыязджалі вядомыя гістарычныя асобы, у тым ліку і члены рускай імператарскай сям'і, то, зразумела, мястэчка не магло застацца незаўважаным для кінадакументалістаў, фатографаў і літаратараў. У пачатку XX стагоддзя было выпушчана некалькі фотакартак з адлюстраваннямі эпізодаў заняткаў у афіцэрскай кавалерыйскай школе. А ў 1908 годзе кінапрадпрымальнікам і рэжысёрам А. В. Дранковым зняты невялікі дакументальны фільм «Кавалерыйская школа ў Паставах», які захаваўся да нашых дзён. Цікавы лёс аўтара гэтага відэасюжэта.

Аляксандр Восіпавіч Дранкоў нарадзіўся 3 кастрычніка 1880 года ў Феадосіі. Прафесійную кар'еру пачаў у пачатку 1900-х гг. з фатаграфіі; у 1904 г. адкрыў фатаграфічнае атэлье ў Пецярбурзе, а ў наступным году — сетку танных электрафотаздымкаў; адначасова стаў папулярным фотахранікёрам, карэспандэнтам айчынных і замежных ілюстраваных выданняў. У пачатку 1907 года пабываў у Парыжы, дзе пазнаёміўся з кінавытворчасцю «Бр. Патэ»; увосень таго ж года адкрыў уласнае, першае ў Расіі кінаатэлье, здымаючы надзённую хроніку, а таксама вядомых дзеячаў рускай мастацкай культуры і навукі — Л. Талстога, М. Горкага, Л. Андрэева, Д. Мендзялеева, царскую хроніку і да таго падобнае. Як аператар, да сярэдзіны 1910-х гадоў ён зняў больш сотні хранікальных і краявідных стужак, выпусціў першы хранікальны кіначасопіс «Агляд Расіі» (1910), а ў 1908 годзе — першы гульнявы фільм «Стенька Разин». Пазней пераехаў у Маскву, дзе займаўся пераважна вытворчасцю гульнявых пастановак. Пасля

рэвалюцыі жыў у Кіеве, Адэсе, Ялце; у лютым 1920 года выехаў у Канстанцінопаль, адкуль праз тры гады пераехаў у ЗША. Спрабаваў працаваць на галівудскіх студыях, але справа не пайшла. Перакінуўся на рэстаранны бізнес, але і тут не атрымалася. З гэтай прычыны перабраўся ў Сан-Францыска, дзе трымаў маленькую фоталабараторыю. Там жа і памёр 1 студзеня 1949 года.

Пра цікавае здарэнне ў час здымак парфорснага палявання ў Паставах, якое адбылося, верагодна, з Дранковым (у тэксце ён падаецца як «ротмістр Д.»), расказаў у сваіх успамінах палкоўнік М. Мураxоўскі.

«Сярод афіцэраў пастаяннага саставу школы быў такі ротмістр Д., карэнны афіцэр майго палка. У палку яго не любілі і пры ад'ездзе яго у двухгадовую камандзіроўку ў школу яму далі зразумець, што вяртанне яго ў полк не пажадана.

Па знешняму выгляду гэта быў афіцэр з выдатнай фігурай, светлымі распушанымі вусамі і пышнай шавялюрай. Ён нядрэнна іграў на карнеце, займаўся такарнай і слесарскай справай і да таго ж быў цудоўным фатографам. Дзякуючы гэтым талентам, асабліва апошняму, яму ўдалося ўладкавацца ў пастаянны састаў школы, хоць і там ён сімпатыямі не карыстаўся. Ягоныя выдатныя фатаграфічныя працы прыцягнулі ўвагу вярхоў і яму неаднаразова даручаліся працы ў імператарскім Двары пры здымках маленькага ў той час Спадчынніка Цэсарэвіча і Вялікіх Княгінь. — У школе я яго ўжо сустрэў з трывалым званнем Прыдворнага Фатографа.

…Дык вось, з гэтым самым Д. і здарылася ніжэй апісаная гісторыя. Карыстаючыся тым, што на паляванне прыбыў Вялікі Князь Мікалай Мікалаевіч, начальнік школы звярнуўся ў час снядання да ротмістра Д. з пытаннем ці мог



бы ён зрабіць кінематаграфічны здымак палявання з удзелам Вялікага Князя? На што той даў катэгарычны адказ, што гэта вельмі лёгка і што ён толькі чакае загаду.

Абмеркаваўшы ўсе дэталі, было вырашана, што здымак будзе зроблены на наступны дзень, прычым паляванне пойдзе па штучным следзе.

На другое пытанне ці мае ротмістр Д. усё неабходнае, зноў пачулі гэтае ж катэгарычнае сцвярджэнне.

Надышла раніца і ўсе мы, падцягнутыя як перад апаратам, рушылі да пункта пачатку палявання.

Прысутнасць Вялікага Князя, а таксама чакаемая здымка надала паляванню нацягнута ўрачысты выгляд. Прыбыўшы на месца ўсе мы ўбачылі ў кустах коннага веставага, які трымаў за лейцы каня пад афіцэрскім сядлом, а побач накрытую з галавой фігуру кінаапаратара, які энергічна круціў ручку апарата. Адзняўшы галаву палявання, «вар» і пачатак руху палявання, фігура знікла.

На працягу ўсяго палявання мы некалькі разоў бачылі тую ж фігуру, якая энергічна накручвала сваю катрынку ўключна да апошняга «вару», якім закончылася паляванне.

Пасля вяртання толькі і было размоў пра зробленыя здымкі, якія, як сцвярджаў ротмістр Д., выключна атрымалася. Прыбыўшы ў палац і перадаючы апарат дзеншчыку, р-р Д. празмерна гучна, так, што ўсе прысутныя добра чулі, звярнуўся да яго са словамі: «Аднясі да мяне ў пакой і глядзі каб апарат не расчыніўся, а то патрапіць святло і ўвесь здымак прападзе!».

Пасля снядання, які зацягнуўся на гэты раз даўжэй, чым звычайна, ротмістр Д. папрасіў дазволу пайсці, каб заняцца праяўкай, бо дэманстрацыя фільма меркавалася вечарам.

Не паспела публіка і на палову разысціся, як з верхняга паверху, дзе знаходзіліся кватэры афіцэраў, пачуўся крык

Д., які лаяў свайго дзеншчыка. «Мерзавецъ, болванъ! Што ты наделалъ?! Или я тебя не предупреждалъ, скотина! Ну, что я сейчас скажу Великому Князю?!» — неслася адтуль і потым, з'явіўшыся, Д. з адчаем заявіў афіцэрам, якія былі на верандзе, што «всё пропало, что снимокъ, какъ на зло очень удачный, окончательно испорченъ, такъ какъ эта каналья-деньщикъ не осмотрѣлъ крючковъ и аппаратъ при постановкѣ на столъ открылся и проникшій внутрь свѣтъ обезцвѣтилъ пленки!».

Адчай небаракі быў такі вялікі, што Вялікі Князь, які быў з намі ў той момант, сам пачаў яго супакойваць, кажучы, што ў наступны раз Бог пашле большыя поспехі. Седзячы пасля вячэры ў той жа дзень у адным з маіх любімых куточкаў саду, я раптам убачыў Д., які падыходзіў да мяне і напяваў нейкую шансанетку. Выглядаў ён жыццярадасна і зусім не быў падобны на пакрыўджанага. У размове я закрануў гісторыю са здымкам і выказаў яму сваё спачуванне, на што ён, усміхнуўшыся і агледзеўшыся вакол, шапнуў мне на вуха: «Ерунда! Никакого снимка не было!» і ўбачыўшы маё здзіўленне, патлумачыў тым жа паніжаным голасам, што атрымаўшы загад на правядзенне здымкаў, ён толькі прыйшоўшы дахаты ўпэўніўся, што новай стужкі ў яго няма і набыць яе, з-за сціслласці часу няма дзе. Прызнацца ў гэтым, паводле яго слоў, было «стыдно передъ Его Высочествомъ» і ён вырашыў сімуляваць як саму здымку, так і далейшую гісторыю з псаваннем.

— «Но позвольте», — запярэчыў я, — «вѣдь мы же всѣ видѣли Васъ за аппаратомъ, рукоятку котораго Вы крутили по мѣрѣ прохожденія охоты!»

— «Ну да! Крутилъ ручку незаряженнаго аппарата!» са смехам адказаў ён. Застаўшыся адзін, я доўга не мог прыйсці ў сябе ад дасціпнага нахабства гэтага тыпа, які



лічыў, што прызнацца ў сваёй памылцы «ніякавата», а прымусіць паўсотні людзей на працягу 2–3-х гадзін разыгрываць дурня — «зручна і спрытна» і міжволі ўспаміналіся пры гэтым тыя карцінныя паставы, якія мы ўсе прымалі, калі праязджалі кожны раз перад апаратам!»

З літаратурных твораў, у якіх згадваецца Пастаўская кавалерыйская школа, найбольш адметным з'яўляецца раман «Largo» былога кіраўніка казацкага аддзела школы атамана П. Краснова, які неаднаразова бываў у Паставах. У яго творы лёс літаратурных герояў, кавалерыйскіх афіцэраў Петрыка і Партоса, складваецца так, што яны трапляюць у паляўнічы замак Пшаздзецкага, дзе разам з іншымі курсантамі ўдзельнічаюць у розных мерапрыемствах, якія тут адбываюцца. Падрабязна, эмацыянальна і жыва апісаны ўвесь працэс парфорснага палявання, а лірычныя адступленні вымалёўваюць прыгожыя краявіда пастаўскай прыроды.

З цікавасцю чытаюцца ўспаміны палкоўніка М. Мураxоўскага ў кнізе «Былое» (З успамінаў Кавалерыйскага Афіцэра). На яе старонках ёсць даволі многа эпізодаў дэталёвага апісання побыту, адпачынку, вучобы і ўдзеле ў парфорсных паляваннях пастаўскіх курсантаў.

Важным гістарычным дакументам пра пастаўскую кавалерыйскую школу з'яўляюцца фотаальбомы «Парфорснае паляванне афіцэрскай кавалерыйскай школы ў мястэчку «Паставы» Віленскай губерніі 1900 год» і «Парфорснае паляванне афіцэрскай кавалерыйскай школы ў маёнтку «Паставы» Віленскай губ. 1902 год», укладальнікам і аўтарам ілюстрацый для якіх быў паручнік 41-га драгунскага Ямбургскага палка А.Далматаў. Гэта былі альбомы-папкі, першы з іх меў аб'ём у 22 лісты, з якіх 20 складалі фатаграфіі. У другім налічвалася трыццаць старонак.

Альбом 1900 года (выдадзены ў 1901-м) змяшчаў наступныя фотаздымкі: віды мястэчка «Паставы»; паляванне конна з сабакамі па штучным следзе; паляванне на жывога звера; рух кавалерыстаў па перасечанай мясцовасці, пераадоленне перашкод; заканчэнне палявання; раздзелка тушы аленя; паляванне на ваўка з хартамі; трафей палявання: туша забітага лася.

Групавыя здымкі ўдзельнікаў палявання — афіцэраў кавалерыйскай школы.

Тэкставая частка альбому ўключала апісанне парфорснага палявання, падрыхтаванае генерал-маёрам А. А. Брусілавым; спіс удзельнікаў і гасцей парфорснага палявання афіцэрскай кавалерыйскай школы ў мястэчку «Паставы» Віленскай губерні.

Яшчэ адзін удзельнік практычных трэніровак на Пастаўшчыне А. А. Ігнацьеў апісаў свае ўражанні ад побыту на тутэйшай зямлі у сваёй кнізе «Пятьдесят лет в строю».

Вядомы савецкі пісьменнік Валянцін Пікуль сваіх літаратурных герояў гістарычнага рамана «Честь имею!» таксама правёў праз парфорснае паляванне ў Паставах і пазнаёміў чытачоў з загадкавай жанчынай, «багіняй палявання» Цэцыліяй Вылежынскай.



# Лёсы вядомых гістарычных асоб — удзельнікаў парфорсных паляванняў у Паставах

## Вялікі князь Мікалай Мікалаевіч Раманаў

У свядомасці большасці нашых сучаснікаў умацавалася ўяўленне, быццам члены рускай імператарскай сям'і толькі і жылі тым, што адпачывалі, ладзілі балі і прыемныя вандроўкі, купаліся ў раскошы і пустапарожніх справах. Але гэта не так. І прыкладам таму лёс Вялікага князя Мікалая Мікалаевіча.

Вялікі князь Мікалай Мікалаевіч Малодшы, першы сын вялікага князя Мікалая Мікалаевіча (Старэйшага) і вялікай княгіні Аляксандры Пятроўны Ольдэнбургской, унук імператара Мікалая I, генерал-ад'ютант, нарадзіўся 6 лістапада 1856 года ў Санкт-Пецярбурзе. З дзяцінства прысвяціў сябе вайсковай справе. У 15 гадоў быў залічаны юнкерам Мікалаеўскага інжынернага вучылішча. У 1876 годзе скончыў Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба з сярэбраным медалём і з унясеннем імя на мармуровую дошку, а праз год удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1877–1878 гадоў, дзе праявіў сябе з найлепшага боку. За мужнасць пры пераправе праз Дунай, калі ён павёў за сабой адну з калон салдат, 21-гадовы афіцэр імператарскай сям'і быў узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4 ступені. Затым Вялікі князь удзельнічаў у атацы і захопе Шыпкінскага перавалу войскамі князя Святаполк-Свецкага і за праяўлены гераізм пры гэтым быў узнагароджаны залатой зброяй з надпісам «За адвагу».

Вайсковыя ўменні, строгасць, справядлівасць, дысцыплінаванасць паступова вылучылі яго ў першыя шэрагі расійскага генералітэту. Пра гэта сведчыць яго паслужны спіс: з 6 мая 1884 года — камандзір лейб-гвардыі Гусарскага палка; з 10 лістапада 1890 года — камандзір 2-й брыгады 2-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі; з 11 снежня 1890 года — камандзір 2-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі; у 1895–1905 гадах — генерал-інспектар кавалерыі; з 1905 года — Галоўнакамандуючы войскамі Гвардыі і Санкт-Пецярбургскай вайсковай акругі, старшыня Рады Дзяржаўнай Абароны; 20 ліпеня 1914 года, перад пачаткам Першай сусветнай вайны, быў прызначаны Вярхоўным Галоўнакамандуючым усімі сухапутнымі і марскімі сіламі.

Пасля таго, як улетку 1915 года рускае войска атрымала некалькі буйных паражэнняў, 23 жніўня 1915 года імператар Мікалай II асабіста прыняў на сябе камандаванне ўсімі ўзброенымі сіламі, а Вялікі князь быў прызначаны Намеснікам на Каўказе і Галоўнакамандуючым Каўказскім фронтам. 2 сакавіка 1917 года Мікалай II, перад сваім адрачэннем ад прастолу, прызначыў яго Вярхоўным Галоўнакамандуючым. Вялікі князь прыбыў у Стаўку, каб прыняць кіраўніцтва войскамі, але пасля нарады з М. У. Аляксеевым, які быў прызначаны галоўнакамандуючым пастановай Часовага ўраду, быў змушаны адмовіцца ад гэтага паста.

Мікалай Мікалаевіч пакінуў Расію ў красавіку 1919 года разам з імператрыцай Марыяй Фёдараўнай на брытанскім караблі «Мальбара». У эміграцыі пад прозвішчам Барысаў спачатку жыў у Італіі, з 1922 года — у Францыі. З 1924 года кіраваў рускімі вайсковымі арганізацыямі на эміграцыі — Рускім Агульнавайсковым Саюзам.



Памёр 5 студзеня 1929 года на сваёй віле ў Канах, дзе і пахаваны ў крыпце царквы Святога Міхаіла побач з магілай жонкі.

## Аляксей Аляксеевіч Брусілаў

Нарадзіўся 31 жніўня 1853 года ў Тыфлісе ў сям'і генерала. Маці, Марыя-Луіза Антонаўна, была полька, паходзіла са шляхецкага роду Нестаемскіх.

У 1867 годзе Аляксей паступіў у пажскі корпус, скончыўшы які, праз пяць гадоў патрапіў служыць у 15-ы драгунскі цвярскі полк.

У 1877—1878 гадах удзельнічаў у руска-турэцкай вайне, дзе вызначыўся пры ўзяцці турэцкіх крэпасцяў Ардаган і Карс, за што атрымаў ордэн св. Станіслава 3-й і 2-й ступені і ордэн св. Ганны 3-й ступені.

З 1883 года служыў у Пецярбургскай афіцэрскай кавалерыйскай школе на розных пасадах, у 1902 годзе стаў яе начальнікам. Брусілаў быў вядомы не толькі ў Расіі, але і за мяжой, як дасведчаны знаўца кавалерыйскай язды і спорту. У 1900 годзе атрымаў званне генерал-маёра. Пад яго кіраўніцтвам кавалерыйская школа дасягнула найбольшай эфектыўнасці, менавіта ён быў арганізатарам парфорсных паляванняў у Паставах. Барон К. Манергейм успамінаў: «Ён быў уважлівым, строгім, патрабавальным да падначаленых кіраўніком і даваў вельмі добрыя веды. Яго ваенныя гульні і вучэнні на мясцовасці па сваіх распрацоўках і выкананню былі ўзорнымі і вельмі цікавымі».

З 1906 года А. Брусілаў камандаваў рознымі вайсковымі злучэннямі: 2-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіяй, 12-ым і 14-ым вайсковымі карпусамі.

У Першую сусветную вайну камандаваў 8-й арміяй у Галіцыйскай бітве, за што быў узнагароджаны ордэнам св. Георгія 4-й і 3-й ступені. У 1916 годзе, камандуючы Паўднёва-Заходнім фронтам, правёў паспяховае наступленне, якое ўвайшло ў гісторыю пад назвай «Брусілаўскі прарыў». За паспяховае правядзенне гэтай аперацыі А. Брусілаў большасцю галасоў Георгіеўскай Думы пры Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандуючага быў прадстаўлены да ўзнагароджання ордэнам св. Георгія 2 ступені. Аднак імператар Мікалай II не зацвердзіў рашэння і Брусілаў быў узнагароджаны толькі зброяй з дыяментамі.

У час лютаўскай рэвалюцыі падтрымаў адрачэнне ад прастолу Мікалая II і прыход да ўлады часовага ўрада. 22 мая 1917 Часовы ўрад яго прызначыў вярхоўным галоўнакамандуючым замест генерала Аляксеева, але пасля правалу чэрвеньскага наступлення Брусілава здымаюць з паста Вярхоўнага галоўнакамандуючага і замяняюць генералам Карнілавым.

Пасля адстаўкі ён жыў у Маскве, служыў у Чырвонай арміі на розных кіруючых пасадах. У 1923–1924 гадах быў галоўным інспектарам кавалерыі РККА. Меў званні генерала ад кавалерыі (1912), генерал-ад'ютанта (1915), (1923).

А. А. Брусілаў памёр 17 сакавіка 1926 года ў Маскве ад запалення лёгкіх ва ўзросце 73 гадоў. Пахаваны на Новадзевічых могілках.



## Пётр Мікалаевіч Красноў

Красноў Пётр Мікалаевіч — палітычны дзеяч, князь, казацкі атаман, пісьменнік, які напісаў больш двух дзесяткаў раманаў і аповесцяў («Ад двухгаловага арла да Чырвонага сцяга», «Усё праходзіць», «Зразумець — прабачыць», «Кацярына Вялікая», «З намі Бог» і інш.).

Нарадзіўся 10 верасня 1869 года ў Санкт-Пецярбурзе ў казацкай сям'і. Яго бацька, Красноў М.І., генерал-лейтэнант, аўтар прац па гісторыі данскога і церскага казацтва. У 1887 годзе Пётр Красноў скончыў Аляксандраўскі кадэцкі корпус у чыне віцэ-унтэр-афіцэра, а ў 1889-м — Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў званні фельдфебеля. З 1891 года пачаў публікавацца ў ваеннай газеце «Рускі інвалід». Праз год паступіў у Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба, але праз год сышоў з яе і вярнуўся ў Атаманскі полк. У 1893 годзе выдаў свой першы літаратурны зборнік «На возеры», а праз тры гады — першую гістарычную працу «Атаман Платов».

У 1897–1898 гадах выконваў абавязкі начальніка канвою Рускай імператарскай місіі ў Абісініі (Эфіопіі). За выдатную падрыхтоўку казакоў атрымаў ад імператара Эфіопіі Менеліка ордэн эфіопскай зоркі 3-й ступені. Паставіў рэкорд хуткасці, даставіўшы за трыццаць дзён сакрэтныя дакументы з Адіс-Абебы ў Пецярбург. Быў узнагароджаны ордэнам св.Станіслава 2-й ступені.

Яго вабіла літаратура і таму перайшоў на пастаянную працу ў «Рускі інвалід», дзе ў якасці ваеннага карэспандэнта наведаў Маньчжурыю, Кітай, Японію, Індыю (1901), Турцыю і Персію (1902). У час руска-японскай вайны працаваў франтавым карэспандэнтам, удзельнічаў у баях у складзе казацкіх войск. Узнагароджаны ордэнамі св.Ганны 4-й ступені і св. Уладзіміра 4-й ступені.

У 1906–1907 гадах камандаваў сотняй у Атаманскім палку. Потым вучыўся ў афіцэрскай кавалерыйскай школе і быў пакінуты пры ёй начальнікам казацкага аддзела. Бываў на парфорсных паляваннях у Паставах, пра што напісаў у сваім рамане «Largo».

Удзельнічаў у першай сусветнай вайне. За баявыя заслугі ў 1914 годзе ўзнагароджаны Георгіеўскай зброяй; атрымаў чын генерал-маёра і быў прызначаны камандзірам 1-й брыгады 1-й Данской казацкай дывізіі. Пазней камандаваў рознымі ваеннымі падраздзяленнямі. За ўдалыя баявыя дзеянні ўзнагароджаны ордэнамі св. Георгія 4-й ступені і св. Уладзіміра 3-й ступені.

Да Лютаўскай рэвалюцыі паставіўся стрымана, застаючыся манархістам і прыхільнікам цвёрдага парадку ў войскі. Падчас мяцяжу генерала Карнілава быў прызначаны ім камандзірам 3-га коннага корпуса. Атрымаў загад рухацца на Петраград, але не паспеў яго выканаць. Быў арыштаваны Часовым урадам, але неўзабаве вызвалены і зацверджаны на пасадзе камандзіра корпуса. З 29 кастрычніка 1917 па 31 кастрычніка 1917 разам з А. Керанскім узначальваў паход на Петраград. Пасля некаторых поспехаў (узяцце Гатчыны і Царскага Сяла) нешматлікія атрады казакоў былі спынены чырвонаармейцамі. 1 лістапада 1917 года П. Красноў арыштаваны бальшавікамі, але праз дзень адпушчаны па патрабаванню казацкага камітэта.

У лютым 1918 года з рэшткамі корпуса вярнуўся на Дон, дзе ў хуткім часе прыступіў да фарміравання Данскога казацкага войска, быў абраны яго атаманам.

Пад яго кіраўніцтвам Данское войска агульнай колькасцю 45 тыс.чалавек пры 610 кулямётах і 150 гарматах разгарнула шырокі наступ на поўнач, заняўшы ўсю вобласць Войска Данскога і частку Варонежскай губерні. Аднак наступныя



няўдачы прывялі да падзення аўтарытэта атамана сярод казацтва і ён падаў у адстаўку. Пазней П. Красноў служыў у белагвардзейскіх арміях Дзянікіна і Юдзеніча.

У 1920 годзе эмігрыраваў у Германію, праз тры гады — у Францыю. Займаўся літаратурнай дзейнасцю (выдаў больш дваццаці тамоў успамінаў, раманаў і аповесцяў). Чытаў лекцыі па ваеннай псіхалогіі на Ваенна-навуковых курсах генерал-лейтэнанта Галавіна ў Парыжы. Быў членам Вышэйшай манархічнай рады, актыўна супрацоўнічаў з Расійскім агульнавайсковым саюзам, прымаў удзел у арганізацыі разведвальнай і дыверсійнай дзейнасці супраць СССР. У 1936 годзе вярнуўся ў Германію, пасяліўся на віле каля Берліна. Працягваў супрацоўніцтва з немцамі і ў гады Другой сусветнай вайны. У 1941 годзе стаў супрацоўнікам Казацкага аддзела нямецкага Міністэрства ўсходніх тэрыторый, а ў 1944 годзе быў прызначаны начальнікам Галоўнага ўпраўлення казацкіх войск. Кіраваў фарміраваннем 1-й казацкай кавалерыйскай дывізіі вермахту.

Пасля капітуляцыі Германіі ў канцы мая 1945 года здаўся англічанам, якія перадалі яго савецкаму камандаванню. У чэрвені 1945-га арыштаваны супрацоўнікамі Смерша, а праз паўтары гады прысуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да смяротнага пакарання праз павешанне. Прысуд быў прыведзены ў выкананне ў двары Ляфортаўскай турмы МДБ СССР.

## Карл Густаў Эміль Манергейм

Нарадзіўся 4 чэрвеня 1867 года ў мястэчку Вільняс каля Турку ў Фінляндыі ў сям'і патомных шведскіх дваран. Скончыў Гельсінгфорскі ліцэй (1883), Гельсінгфорскі ўніверсітэт (1887) і Мікалаеўскую кавалерыйскую школу (1889). З 1889 па 1917 год служыў у рускай імператарскай арміі. У час службы наведваў Паставы, дзе ўдзельнічаў у парфорсных паляваннях.

У 1904 годзе дабраахвотнікам паехаў на руска-японскую вайну, дзе камандаваў кавалерыйскім дывізіёнам. Браў удзел у першай Сусветнай вайне. Камандаваў асобнай гвардзейскай кавалерыйскай брыгадай, 12-й кавалерыйскай дывізіяй, 6-м кавалерыйскім корпусам.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі вярнуўся ў Фінляндыю, дзе пасля атрымання краінай незалежнасці ад Савецкай Расіі стаў галоўнакамандуючым фінскай арміі. Сумесна з германскімі войскамі задушыў рэвалюцыю 1918 года ў Фінляндыі; да мая 1918 ачысціў краіну ад савецкіх войск і актыўных прасавецкіх элементаў. У канцы гэтага ж года быў абраны рэгентам Фінляндыі. З 1931 года Карл Манергейм — старшыня Рады дзяржаўнай абароны, а праз два гады — маршал краіны. Напярэдадні другой сусветнай вайны заняў пасаду галоўнакамандуючага фінскай арміі. Паспяхова вёў баявыя дзеянні ў Зімовай вайне супраць СССР у 1939–1940 гадах, стварыўшы вядомую абарончую лінію Манергейма на Карэльскім перашыйку. Пасля паражэння ў вайне падпісаў мірную дамову з СССР і неўзабаве быў абраны прэзідэнтам краіны. Аднак у перыяд другой сусветнай вайны адмовіўся ад пасады, зноў узначаліў войскі Фінляндыі і ў саюзе з Германіяй кіраваў аперацыямі супраць СССР у Карэліі і на Карэльскім перашыйку.



У жніўні 1944 года Манергейм быў паўторна абраны прэзідэнтам Фінляндыі. Пасля паражэння фінскай арміі ў кастрычніку 1944 змушаны быў падпісаць мірную дамову з СССР, але дамогся захавання суверэнітэту краіны. У сакавіку 1945 года абвесціў вайну Германіі.

У 1946 годзе выйшаў у адстаўку. Меў званні генерал-маёр (02.1912), генерал-лейтэнант (07.1917), фельдмаршал (1938).

Памёр Манергейм у швейцарскім горадзе Лазана 27 студзеня 1951 года.

## Аляксей Аляксеевіч Ігнацьеў

Нарадзіўся 2 сакавіка 1877 года ў сям'і члена Дзяржаўнага савета генерала А. П. Ігнацьева. Ва ўзросце 17 гадоў паступіў на службу ў імператарскую армію. У 1896 годзе скончыў пажскі корпус і быў прыняты ў кавалергардскі полк. Праз чатыры гады скончыў Мікалаеўскую акадэмію генеральнага штабу па 1-му разраду.

У 1902–1903 гадах быў прыкамандзіраваны да афіцэрскай кавалерыйскай школы для вывучэння тэхнічнага боку кавалерыйскай справы. У гэты час наведваў Паставы, пра што і пакінуў успаміны ў сваёй кнізе «Пятьдесят лет в строю».

Пасля гэтага А. Ігнацьева прызначылі камандзірам эскадрона лейб-гвардыі уланскага палка.

З 1904 па 1905 год знаходзіўся на Далёкім Усходзе ў Маньчжурскай арміі, дзе ўдзельнічаў у руска-японскай вайне. Пасля вяртання ў Санкт-Пецярбург да студзеня 1908 года выконваў абавязкі штаб-афіцэра для асобых даручэнняў пры штабе Гвардзейскага корпуса і штаба 1-га вайсковага корпуса, пасля чаго быў накіраваны ваенным агентам (аташэ)

у Даніі, Швецыі і Нарвегіі. З 1912 па 1917 гады выконваў місію ваеннага аташэ ў Францыі.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі перайшоў на бок Савецкай улады, застаючыся ў Францыі. У 1925 годзе перадаў савецкаму ўраду грашовыя сродкі, якія належалі Расіі (225 млн рублёў золатам) і знаходзіліся ў французскіх банках на яго імя. За гэтыя дзеянні быў падвергнуты байкоту з боку эмігранцкіх арганізацый і выключаны з таварыства выпускнікоў пажскага корпуса і афіцэраў кавалергардскага палка. Пад заклікам з патрабаваннем суровага суда над адрачэнцам падпісаўся нават яго родны брат.

Адпрацаваўшы ў савецкім гандлёвым прадстаўніцтве ў Парыжы, вярнуўся ў СССР, дзе служыў у савецкім войску, працаваў у ваенных навучальных установах. З 1937 года быў на пасадах інспектара і старэйшага інспектара па замежных мовах кіраўніцтва ваенных вучэбных устаноў РККА, начальнікам кафедры замежных моў Ваенна-медыцынскай акадэміі. У час другой сусветнай вайны працаваў старэйшым рэдактарам ваенна-гістарычнай літаратуры ваеннага выдавецтва.

У 1947 годзе выйшаў у адстаўку, на пенсіі займаўся літаратурнай дзейнасцю. Напісаў кнігу успамінаў «Пятьдесят лет в строю».

Быў жанаты ў першым шлюбе на Алене Ўладзіміраўне Ахотнікавай, пасля разводу з якой у 1918 годзе ажаніўся на балярыне Наталлі Ўладзіміраўне Труханавай.

У царскай арміі даслужыўся да чына генерал-маёр, які атрымаў у 1917 годзе. Чын генерал-лейтэнанта атрымаў у Чырвонай Арміі ў 1943 годзе. Меў узнагароды: ордэны Св. Ганны 4-й ст. (1905); Св. Станіслава 3-й ст. (1905); Св. Уладзіміра 4-й ст. (1906); Св. Станіслава 2-й ст. (1906); Св. Ганны 2-й ст. (1908).



Памёр 20 лістапада 1954 года ў Маскве, пахаваны на Новадзевічых могілках.

## Аляксандр Дзмітрыевіч Далматаў

Аляксандр Далматаў, гвардыі палкоўнік, фатограф, аўтар фотаальбому «Парфорсная охота офицерской кавалерийской школы в имении «Паставы» Виленской губернии», нарадзіўся 19 чэрвеня 1873 года ў праваслаўнай сям’і. Атрымаў ваенную адукацыю. У 1896 годзе быў карнетам драгунскага палка, у пачатку ХХ стагоддзя вучыўся (з 1910 года стаў штаб-ротмістрам) у афіцэрскай кавалерыйскай школе. Бываў на парфорсных паляваннях у Паставах.

Захапляўся фатаграфіяй, быў адным з лепшых спецыялістаў у гэтай справе. Ім былі падрыхтаваны і выдадзены фотаальбомы пра парфорснае паляванне ў Паставах. Таксама А. Далматаў браў удзел у ілюстраванні кнігі пра Белавежскую пушчу, у якой было змешчана больш двухсот фатаграфій зуброў.

У 1914 годзе ён выдаваў часопіс «Армия и Флот», прычым сам быў і рэдактарам, і выдаўцом, і аўтарам шматлікіх артыкулаў, і фотакарэспандэнтам. Здымаў не толькі на зямлі, але і ў паветры з самалёта «Ілья Муромец». Акрамя таго, быў аўтарам некалькіх кніг і музычных твораў. У адной з газет за люты 1905 года было кароткае паведамленне пра вальс «Ціхаакіянскія хвалі» А. Далматова і пра тое, што «прыбытак ад продажу будзе накіраваны на развіццё ваеннага флота».

У 1917 годзе атрымаў званне гвардыі палкоўніка. Пасля рэвалюцыі перайшоў на бок бальшавікоў. З 1918 года Аляксандр Далматаў быў адным з арганізатараў

«чырвонай» кавалерыйскай школы, заслужыў падзяку ад З. М. Будзёнага, але пасля, нягледзячы на заслугі перад савецкай уладай і Чырвонай арміяй, быў звольнены, працаваў на кінафабрыцы.

А. Далматава рэпрэсавалі ў 30-х гадах. Не выратавалі нават станоўчыя водгукі аб яго працы. Рэабілітаваны пасмяротна.



# Змест

